ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 45 (2395) 10 лістапада 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 40 рублёў.

## БУДУЧЫНЯ МАГЧЫМАЯ, КАЛІ НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА МІНУЛАЕ








**Перад Дзядамі ў Мінску адбылася падзея, якой не надалі маштабнага гучання ні сродкі масавай інфармацыі, ні грамадскасць. 30 кастрычніка быў Дзень памяці ахвяр рэпрэсій. На сход прыйшлі нямногія: толькі тыя, каму гэта баліць, хто быў у сталінскім пекле ГУЛАГаў, прайшоў усе яго кругі і ацалеў.**

**Гэтыя пару соцень чалавек накіраваліся да Курапат -- месца, якое стала сімвалам нашага пакутніцтва пад "счастливой сталинской звездою". Але што павінны былі перажыць гэтыя людзі, якія ўбачылі пяць раскапаных магіл, параскіданыя косці ахвяр?!**

**Палітычная правакацыя! Марадзёрства сучасных "шукальнікаў скарбаў"!**

**У Курапатах гэткае кашчунства адбываецца не першы раз.**

**Без мінулага -- няма будучыні. Гэтая фраза да таго часта паўтараецца сёння ў прэсе, з трыбун, што яна стала амаль што бяссэнсавай, як колішні лозунг "Вперед к победе коммунизма!", што быў абавязковым атрыбутам "нагляднай адукацыі" і ў тэатральнай зале, і амаль на кожным плоце.**

**Мінулае. Мільёны ахвяр рэпрэсій таталітарнага рэжыму. Хто пра іх сёння помніць, калі і дагэтуль не раскрыты для людзей архівы КДБ, калі ўсё менш пішуць пра сталінскі генацыд.**

**Дык на якім жа фундаменце грунтуецца наша будучыня!**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ДЗЕСЯЦЬ ДЗЁН НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

# ЦІ ШЧАСЛІВЫ ВЫ ЧАЛАВЕК?

## ГЭТАЕ ПЫТАННЕ НАЙЧАСЦЕЙ ЗАДАВАЛІ БАРЫСУ КІТУ

Дзесяць дзён, з 20 па 30 верасня, знаходзіўся на Бацькаўшчыне славуты беларус, акадэмік Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі, грамадзянін ЗША Барыс Кіт. Гэта другі (пасля 1992 года) прыезд вучонага на Беларусь, дзе ён не быў больш за 50 год. Запрошаны на адкрыццё Міжнароднай Акадэміі Еўразіі, што адбывалася ў Мінску, Барыс Уладзіміравіч быў абраны яе віцэ-прэзідэнтам і Ганаровым акадэмікам. Удзел у пасяджэннях Акадэміі не перашкаджаў, аднак, сустракацца з многімі людзьмі, наведваць родныя мясціны.

У першы ж дзень свайго прыезду ён наведаў сядзібу "Бацькаўшчыны", Скарынінскі цэнтр, дзе адбылося яго знаёмства з вядомымі вучонымі-беларусістамі, дзе аб задачах і праблемах новай Акадэміі Еўразіі расказаў Я.Шыраеў (акадэмік, таксама беларус, які жыве ў Маскве). Цёплай і працяглай наступным днём была сустрэча Барыса Уладзіміравіча з супрацоўнікамі рэдакцыі газеты "Голас Радзімы". Пра яе мы ўжо пісалі.

Як педагог, настаўнік, прафесар матэматыкі Вашынгтонскага Мэрылендскага універсітэта і яго філіялаў у Еўропе, Барыс Уладзіміравіч не мог не пабываць у мінскіх навучальных установах. Ён наведаў Мінскі тэхналагічны універсітэт, Беларускі універсітэт культуры, адну са сталічных сярэдніх школ з матэматычным ухілам. У тэхналагічным універсітэце ён агледзеў галерэю славутых беларускіх вучоных, дзе ёсць і яго партрэт. Рэктар універсітэта прафесар Іван Жарскі пазнаёміў Барыса Уладзіміравіча з прафесарска-выкладчыцкім складам універсітэта, арганізацыяй навучальнага працэсу. Адбыўся дынамічны, зацікаўлены дыялог матэматыкаў, якіх хвалявалі не толькі чыста прафесійныя навуковыя праблемы, але і жыццёвыя, востранадзённыя пытанні выжывання беларускай нацыі.

Але найглыбей уразілі Барыса Уладзіміравіча нашы маладыя таленты ў Беларускім універсітэце культуры, дзе ён прысутнічаў на занятках, рэпетыцыях у класе Дробыша (народная творчасць, ансамбль "Валачобнікі"), у класе Бяляевай (народная харэаграфія, ішла рэпетыцыя сучасных і старажытных абрадавых танцаў), слухаў выступленне аркестра народнай музыкі, ансамбля "Спадчына" (кіраўнік Альбіна Скарабагатчанка), якія яму прадстаўляла рэктар універсітэта Ядвіга Грыгаровіч.

І ўжо зусім па-маладому адчуваў сябе Барыс Уладзіміравіч на сустрэчы з вучнямі Мінскага матэматычнага ліцэя. Ён быццам вярнуўся ў сваё юнацтва, успомніў пра гады, калі выкладаў матэматыку ў Віленскай, Наваградскай гімназіях. "Я проста шчаслівы, што вас тут бачу. Я вельмі люблю матэматыку, без яе немагчыма ўявіць наша жыццё, яна аснова ўсіх навук, нават гуманітарных. Я доўгі час працаваў у касмічных даследаваннях, дзе ўсё пабудавана на матэматыцы. Яна дала пачатак камп'ютэрам, цяпер касмічная, камп'ютэрная эпоха. Падарожжа на Месяц вырахавана матэматыкамі, гэта вялікае дасягненне чалавецтва. Працуючы ў аддзеле Астранаўтыкі, я даследаваў усё, што тычылася плыўкага вадароду, сёння ён аснова касмічных палётаў. Але з усіх прафесій я вылучаю настаўніцкую, я ніколі яе не пакідаў, увесь час працаваў настаўнікам -- і на Беларусі, і ў далёкай Амерыцы. Гэта так пачэсна -- несці святло ведаў моладзі. Вы пойдзеце далей, будзеце развіваць навуку. Усё мяне ўсцешвае на Радзіме, асабліва вы, маладыя, вы -- мой працяг..."

Можа першы раз у жыцці бачылі вучні жывога беларуса-эмігранта, які, пражыўшы 50 гадоў за межамі Бацькаўшчыны, так цудоўна гаварыў па-беларуску. Яны распытвалі пра асабістае яго жыццё, пра сыноў, жыццё ў Амерыцы, пыталіся, якімі мовамі валодае, прасілі расказаць пра славутага беларуса-матэматыка XVI стагоддзя Семяновіча, які пачынаў тое, да чаго прыйшоў Цыялкоўскі ў XIX стагоддзі, цікавіліся, ці паляцяць людзі ў XX стагоддзі на Марс... Агульная мова была знойдзена, з вучнямі гаварыў сапраўдны настаўнік...

Дарэчы, агульную мову ён можа знаходзіць з людзьмі самых розных узростаў і прафесій. Падчас пасяджэнняў Міжнароднай Акадэміі Еўразіі Барыс Уладзіміравіч пазнаёміўся з мітрапалітам Філарэтам, мэрам Мінска А.Герасіменкам, старшынёй Нацыянальнага банка Беларусі С.Багданкевічам, размаўляў з акадэмікам Р.Гарэцкім, мэрам Маладзечна Г.Карпенкам, з якімі меў сустрэчы яшчэ ў свой першы прыезд, з многімі вядомымі рускімі вучонымі.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ДЗЯДЫ*



Дзяды, ці ўшанаванне памяці памерлых, на Беларусі праводзяцца чатыры разы на год: перад Масленіцай, на Радаўніцу, на Сёмуху і восенню перад Змітром -- Асяніны, ці Змітраўскія Дзяды. Апошнія лічацца самымі значнымі, бо прысвячаюцца цэламу роду: успамінаюць усіх памерлых продкаў.

2-га лістапада Змітраўскія Дзяды адзначаліся па ўсёй рэспубліцы. На могілках наводзілі парадак, ставілі свечкі, маліліся, успаміналі добрым словам родных і блізкіх. Абрад завяршаўся памінальнай вячэрай.

**НА ЗДЫМКУ:** Дзяды на Маскоўскіх могілках у Мінску.

*ПРЭЗІДЭНТ ХВАРЭЕ*

### СОЧЫ ПАСТАВІЦЬ А. ЛУКАШЭНКУ НА НОГІ

Як паведамілі ва ўпраўленні грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, атрымаўшы кансультацыі кваліфікаваных медыкаў у Мінску і Маскве, пройдзе курс далейшага лячэння дыскагеннага радыкуліту ў Сочы.

Лячэнне працягнецца каля дзесяці дзён. Адначасова, падкрэсліваецца ў паведамленні, Прэзідэнт будзе вырашаць пытанні наладжвання прамых эканамічных сувязей паміж Беларуссю і Краснадарскім краем. Адбудуцца яго сустрэчы з адміністрацыяй краю, у час якіх пойдзе размова аб узаемных пастаўках прамысловых тавараў і прадуктаў харчавання.

*РАШЭННЕ ВАТЫКАНА*

### К. СВЁНТЭК — КАРДЫНАЛ

Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Казімеж Свёнтэк прызначаны кардыналам Беларускага каталіцкага касцёла.

30 кастрычніка ў 12 гадзін дня па сярэднееўрапейскаму часу папа рымскі Ян Павел ІІ з акна сваёй рэзідэнцыі ў Ватыкане асабіста прачытаў спіс 30 новых членаў калегіі кардыналаў Рымска-каталіцкага касцёла. Сярод іх і прозвішча К.Свёнтэка. Афіцыйная цырымонія прызнання вышэйшага духоўнага звання ў касцёле адбудзецца 26 лістапада ў Ватыкане.

Нядаўна К.Свёнтэку споўнілася 80 гадоў. Многія гады кардынал правёў у сталінскіх лагерах.

*ДАРОГА ДА РЫНКУ*

### З КОЖНЫМ ДНЁМ "ВЕСЯЛЕЙ"

З 1 лістапада роўна ў два разы падняліся цэны на паштовыя паслугі, тэлеграф і міжгароднія тэлефонныя размовы. Зараз жыхарам нашай краіны за адно слова ў звычайнай тэлеграме трэба будзе плаціць 6 рублёў, а ў тэрміновай -- 12. Перасылка звычайнага пісьма каштуе з пачатку месяца 15 рублёў, адна хвіліна тэлефоннай размовы па міжгораду ў межах вобласці -- 24 рублі, а ў межах рэспублікі 48 рублёў.

Сувязісты сцвярджаюць, што вымушаны былі ўзняць цэны на гэтыя паслугі з-за павелічэння цэн на электраэнергію і павышэння тарыфаў на перавозку пошты чыгуначнікамі. Да таго ж з 1 лістапада нам давядзецца больш плаціць за праезд на электрычках і гарадскім транспарце. Адна зона (працягласць -- 10 кіламетраў) каштуе 80 рублёў. Аўтобус, тралейбус, трамвай і метро зараз будуць каштаваць жыхарам сталіцы 200 рублёў. Калі да гэтага дадаць, што на 10 працэнтаў выраслі цэны на мяса, зноў падаражэў хлеб, вось-вось узнімуцца цэны на масла, то сапраўды выходзіць, як у той песні сталінскіх часоў, "с каждым днем все радостнее жить".

*ЗА ДАЎГІ*

### ЗБРОЯ — СМЕРЦЬ? ЗБРОЯ — НАФТА!

Беларусь мае намер скааперавацца з Расіяй, Украінай і Казахстанам у справе атрымання валюты ад вытворчасці зброі.

Гэта "навіна" прагучала з вуснаў саветніка Прэзідэнта Беларусі Сяргея Посахава на сустрэчы ў Віцебску з прадстаўнікамі мясцовых партыйных арганізацый і рухаў левакансерватыўнай арыентацыі. Саветнік прэзідэнта адзначыў, што новая ўлада спрабуе зацікавіць Маскву размяшчэннем ваенных заказаў у Беларусі. Адно з гомельскіх прадпрыемстваў ужо атрымала двухмільярдны заказ такога роду, грошы ад рэалізацыі якога пойдуць на выплату доўгу за нафту і газ.

*ПАДЛІЧЫМ СТРАТЫ*

### ЗНОЎ "РЭЙКАВАЯ ВАЙНА"?

Рэспубліканскай транспартнай пракуратурай падсумаваны ўрон, нанесены Беларускай чыгунцы ў выніку злачынных дзеянняў за дзевяць месяцаў гэтага года.

Як паказвае статыстыка, рэзка павялічылася колькасць крадзяжоў абсталявання, што забяспечвае рух цягнікоў. Выпадкі ўзлому рэлейных шафаў, крадзяжоў акумулятараў і дэталей, што ўтрымліваюць каляровыя металы, мелі месца 411 разоў -- супраць 353 за такі ж перыяд мінулага года. Па рэспубліцы выразана 975 дросельных перамычак, якія даюць ток да электрасістэм дарогі. Акрамя крадзяжоў лінзавых камплектаў, 1 577 святлафорных лінзаў было разбіта.

Агульны ўрон ад крадзяжоў і пашкоджання толькі апаратуры сувязі і сігналізацыі склаў 61 мільён рублёў.

*ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ*

### ВІНАВАТА РАДЫЯЦЫЯ

У Жыткавіцкім раёне ў выніку медыцынскай праверкі школьнікаў выяўлена вялікая група дзяцей з аслабленым здароўем.

Да спецыяльнай медгрупы аднесены 120 дзяцей, яшчэ 1 300 -- на ўліку ў аналагічных падрыхтоўчых групах. Як вядома, больш палавіны тэрыторыі раёна забруджана радыенуклідамі ад 1 да 5 кюры на 1 квадратны кіламетр. Немалаважнай прычынай, як адзначаюць медыкі, з'яўляецца таксама адсутнасць дастатковай колькасці неабходных вітамінаў.

*КАЗАРМЫ Ў АРЭНДУ*

### ДЫХАЮЦЬ МІРАМ БАРСУКІ

Зусім мірная арыентацыя цяпер у ваеннага гарадка Барсукі, размешчанага ў Клімавіцкім раёне. Пасля адыходу адсюль расійскай авіячасці магілёўскае вытворчае прадпрыемства "Кварк" узяло тут у арэнду пустыя памяшканні і адкрыла ў іх швейны цэх. Работу атрымалі дзесяткі жыхароў гарадка, якія засталіся без справы. Падрыхтаваны да пуску яшчэ адзін цэх -- па перапрацоўцы бульбы.

*ПЕРШАЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ*



У Ашмянах пачала працаваць першая ў рэспубліцы кафейна-цыкорная фабрыка. Яна выпускае молаты кава і кавапрадукты, а таксама новыя гатункі смачных і пажыўных напіткаў на аснове кофе і дабавак з мясцовай сыравіны ў выглядзе злакаў, сушаных яблык, морквы. Прадукцыя фасуецца ў прыгожую тару. Цэны памяркоўныя і разлічаны на масавага пакупніка.

**НА ЗДЫМКУ:** дырэктар фабрыкі Яніна БАРЫС задаволена першай прадукцыяй прадпрыемства.

*ПОЛЫМЯ НЕ РАЗГАРЭЛАСЯ*



Жыхарам беларускай сталіцы добра запомніўся красавік 1991-га года. Тады ў раёне вуліцы Даўгабродскай быў перакрыты рух грамадскага транспарту рабочымі заводаў аўтаматычных ліній, шасцерняў і электратэхнічнага імя Казлова, якія пачалі забастоўку, патрабуючы паляпшэння жыццёвага ўзроўню. Тады забастоўка знайшла падтрымку і на іншых прадпрыемствах рэспублікі.

І вось сёлета ў канцы кастрычніка на тым жа самым месцы рух транспарту зноў быў перапынены. На гэты раз рабочыя завода шасцерняў (на здымку) пратэставалі супраць таго, што адзін з іх таварышаў быццам бы пацярпеў ад супрацоўнікаў міліцыі. Але, як кажуць, вялікага полымя не атрымалася, бо ў гэтым факце шмат нявысветленага і супярэчлівага. Затое другі тур стыхійнай забастоўкі прывёў да стварэння свабоднага прафсаюза, заяву ў які падалі 80 чалавек.

*ТРАГЕДЫЯ*

### АПОШНЯЯ ВЯРШЫНЯ

У час узыходжання на гару Канчэнджангу, вышыня якой 8 586 метраў, загінулі тры ўдзельнікі беларускай альпінісцкай экспедыцыі. Мінчанін Сяргей Жвірбля і іркуцкая спартсменка Кацярына Іванова загінулі пад лядова-снежным абвалам на вышыні 6 700 метраў. Член беларускай альпінісцкай экспедыцыі з Балгарыі -- Іарданка Дзімітрава разбілася, упаўшы з вышыні 8 300 метраў. Целы загінуўшых альпіністаў знайсці не ўдалося.

Толькі аднаму з 12 удзельнікаў беларускай альпінісцкай экспедыцыі, барысаўчаніну Віктару Кульбачэнку, удалося падняцца на вяршыню, але і ён атрымаў абмаражэнне пальцаў.



# УНІКАЛЬНАЯ КЛІНІКА Ў ЛЯСНЫМ

У апошнія гады прыбавілася пацыентаў у адзіным у рэспубліцы і таму ў некаторым сэнсе унікальным аддзяленні пластычнай і рэканструкцыйнай хірургіі Мінскай абласной клінічнай бальніцы. У клініцы пасёлка Лясны, што пад Мінскам, траўміраваныя канечнасці "рамантуюць" таленавітыя хірургі пад кіраўніцтвам загадчыка аддзялення Уладзіміра Падгайскага. Зрэшты, не толькі канечнасці.

-- Уласна, і стваралі мы аддзяленне для таго, каб дапамагаць людзям, якія страцілі рукі, пальцы... Раней жа такіх даводзілася вазіць на лячэнне ў Маскву, -- расказвае Уладзімір Падгайскі. -- 40 ложкаў, што маем сёння, на рэспубліку хапае. Мы робім аперацыі, напрыклад, пры траўмах з пашкоджаннем перыферычных сасудаў і нерваў. Навучыліся дапамагаць пры пашкоджаннях тканак канечнасцяў. Працуем з кісцю, калі страчаны пальцы і рука становіцца недзеяздольнай: робім перасадкі са ступняў, каб чалавек мог абслужыць сябе сам. Займаемся пластыкай перыферычных нерваў і сухажылляў. Апошнім часам зацікавіліся аперацыямі на малочных залозах, напрыклад, пры іх гіпертрафіі, і хірургічнай карэкцыяй атлусцення.

Усе аперацыі, якія праводзяцца ў аддзяленні не па жыццёвых паказчыках, гэта значыць, калі над хворым не вісіць пагроза смерці, робяцца, як сцвярджаюць самі мікрахірургі, для паляпшэння якасці жыцця. Прасцей, каб дапамагчы чалавеку жыць больш радасна. Звыш тысячы пацыентак прайшлі праз гэтае аддзяленне і атрымалі магчымасць мець дзіця. А пасля ж перанесеных аднексітаў мець патомства яны ўжо не спадзяваліся. І толькі трапіўшы ў Рэспубліканскі цэнтр шлюбу і сям'і і атрымаўшы накірунак у аддзяленне Падгайскага, ухапіліся за апошні шанц. Зрэшты, тут вяртаюць і радасць бацькоўства мужчынам. А цяпер яшчэ зроблена і некалькі аперацый па перамене полу ў транссексуалаў.

Шэсць хірургаў высокай кваліфікацыі ва ўзросце да 40 гадоў працуюць у аддзяленні. Вопыту накоплена дастаткова, так што нават калег з іншых краін пачалі вучыць. Напрыклад, італьянца Сержыю Карлоні з буйной клінікі горада Анкона. Сам жа загадчык У.Падгайскі стажыраваўся ў мнагапрофільным шпіталі Берліна, у аддзяленні класічнай хірургіі доктара Фаўбеля.

Але талент талентам, а такое аддзяленне патрабуе яшчэ і добрага аснашчэння. Менавіта яно і пакідае жадаць лепшага. Жывуць пакуль на старых запасах і медыкаментаў, і інструментарыя, і прыбораў, уражваючы сваім энтузіязмам замежных калег.

У аддзяленні падлічылі, што для добрага аснашчэння з дапамогай вядомай нямецкай фірмы "Эскулап" трэба да 100 тысяч долараў ЗША. У клініцы такіх сродкаў няма. Спонсараў таксама нешта не густа. Толькі Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя абяцала памагчы. Астатнія новаспечаныя багатыя, лічыць доктар Падгайскі, пачнуць дапамагаць толькі тады, калі ў іх уласныя сем'і прыйдзе бяда. На жаль, такая пакуль псіхалогія нашых суграмадзян.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА.**

**НА ЗДЫМКУ: ідзе аперацыя.**
**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.**

---

*СТАНДАРТ — СПРАВА ДЗЯРЖАЎНАЯ*

# РОБІМ ЦЯП-ЛЯП, ПРАДАЕМ АБЫ-ШТО

**Скардзіцца на дарагоўлю апошнім часам стала такой жа звычайнай справай, як развагаць аб надвор'і. Прычым, эфект у абодвух выпадках аднолькавы: колькі ні гавары, нічога не зменіш. Але дарагоўля -- гэта яшчэ паўбяды. Куды горш, калі прыносіш купленую рэч (ці прадукт) дамоў і, разглядзеўшы бліжэй, разумееш, што грошы патраціў дарма: набыў няякасны тавар. Чамусьці менавіта ў такія моманты адчуваеш сябе асабліва безабаронным і пакрыўджаным... А між тым, апошнім часам замежных тавараў у прыгожых упакоўках становіцца ўсё больш, і арыентавацца ў іх усё цяжэй. Дык няўжо ж і сапраўды няма каму нас абараніць, заступіцца за інтарэсы радавога пакупніка, якім практычна з'яўляецца кожны з нас! З гэтымі пытаннямі я адправілася ў Камітэт па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі Рэспублікі Беларусь, дзе на мае пытанні адказала начальнік упраўлення сертыфікацыі і дзяржаўнага кантролю якасці Ніаліна ПРОХАРЧЫК.**

*-- Ніаліна Аляксандраўна, што вы можаце сказаць аб якасці прадукцыі, якую сёння выпускаюць нашы прадпрыемствы?*

-- У першым паўгоддзі 1994 года мы правялі 2 037 праверак прадукцыі і атрымалі не вельмі прыемныя вынікі: калі ўзяць адно якое-небудзь прадпрыемства, то колькасць тавараў, што выпускаюцца з парушэннямі, дасягае 45 працэнтаў ад агульнай. А калі гаварыць увогуле аб прадпрыемствах, якія парушаюць патрабаванні стандартаў, то лічба яшчэ страшнейшая -- 60 працэнтаў. Сёння мы спрачаемся, як вывесці рэспубліку з эканамічнага крызісу. І тут без вырашэння праблемы якасці нам не абысціся. Прадукцыя нашых прадпрыемстваў не карыстаецца попытам з-за яе высокай цаны, у такім выпадку трэба павышаць яе канкурэнтаздольнасць за кошт якасці. Але калі бачыш гэтыя лічбы, міжволі пачынаеш глядзець у будучыню без аптымізму.

*-- Мы неяк традыцыйна прывыклі давяраць дзяржаўным прапрыемствам больш, чым дробным прыватным фірмам...*

-- Гэтае становішча пакуль што захавалася. На дзяржаўных прадпрыемствах на ўсю прадукцыю маецца канструктарская і тэхналагічная дакументацыя, выпрабавальнае абсталяванне, на якім правяраюцца вырабы, наладжана надзейная сістэма кантролю. Што ж тычыцца малых прадпрыемстваў, то там вельмі часта не ведаюць асноў распрацоўкі вырабу, правілаў вытворчасці. Паўтараецца адна і тая ж сітуацыя: за мяжой набываецца ўзор нейкага вырабу, тут яго разбіраюць на дэталі, і па ім робіцца нешта аналагічнае сваё. Але не ўлічваюць таго, што ў нас не тыя матэрыялы і не тыя камплектуючыя, што былі прадугледжаны аўтарамі пры стварэнні гэтай мадэлі. Уявіце сабе, што гаворка ідзе, напрыклад, аб запасных частках да аўтамабіля, якія зараз сталі выпускаць многія малыя прадпрыемствы. На дзяржаўных заводах дэталі зроблены па ўсіх тэхналагічных нормах. А калі гумовыя пракладкі ці тармазны шланг будуць зроблены ў кааператыве не з масластойкай гумы, яны проста растануць, і здарыцца аварыя. Асабліва небяспечна такое становішча, калі гаворка ідзе пра электрапрыборы. Быццам бы ўсё сабрана і склеена, як у арыгінале, але ўжылі не той матэрыял -- і можа адбыцца пажар. Да таго ж, прадукцыя малых прадпрыемстваў не праходзіць ніякіх выпрабаванняў. Кіраўнікі такіх устаноў часта даведваюцца пра іх неабходнасць толькі ад нас. Таксама на кожны выраб павінен быць дакумент-пашпарт, каб пакупнік мог ведаць, што ён набывае, якія тэхнічныя характарыстыкі ў прыбора, што яму гарантуе вытворца. Гэтага правіла на малых прадпрыемствах таксама прытрымліваюцца не заўсёды.

*-- Чые тавары часцей не праходзяць экспертызу -- нашы ці замежныя?*

-- Нярэдка даводзіцца чуць, што з-за мяжы да нас паступае прадукцыя толькі дрэннай якасці. Але зусім нядаўна мы разам з Брэсцкім аблвыканкомам правялі сумесную калегію па якасці прадуктаў. Згадзіцеся, Брэст гэта нібы вароты дзяржавы, і атрыманыя тут вынікі асабліва паказальныя. Дык вось, колькасць імпартных няякасных тавараў склала 30 працэнтаў ад агульнай колькасці таго, што мы праверылі, а айчынных -- 45. Так што, як бачыце, наша прадукцыя не лепшая...

*-- Атрымліваецца, што спачатку мы ўсе разам хвалілі любую імпартную прадукцыю, лічачы, што якой бы яна ні была, усё роўна, лепшая за нашу. Сёння мы ганьбім усё імпартнае і гаворым, што добрага нам адтуль не дашлюць...*

-- Так, ёсць і імпартная дрэнная прадукцыя, але сказаць, што заходнія фірмы зрабілі тут сметнік і дасылаюць толькі няякасныя вырабы і прадукты -- нельга. Бывае, калі тавар на Захадзе не вытрымлівае прынятых там норм, тады вытворца, які не жадае губляць рынак і несці адказнасць па свайму заканадаўству, зніжае цану на гэтую партыю тавару. Нашы ж прадпрымальнікі хутка яе купляюць, прывозяць сюды і рэалізуюць. Але мы зараз правяраем асноўныя групы тавараў і ставім заслону тым, якія могуць нанесці шкоду здароўю.

*-- І якім чынам вы гэта робіце?*

-- Вельмі проста: мы не выдаём сертыфікат. Зусім нядаўна да нас паступілі свяцільні з Тайланда, вельмі прыгожыя, добра зробленыя. Дык вось, сертыфіката якасці яны не атрымалі і на рынак не трапілі, таму што падчас выпрабаванняў высветлілася: яны не адпавядаюць патрабаванням тэхнікі бяспекі. У свой час узніклі праблемы з какавай, што паступала да нас з Германіі. Першая, даволі вялікая партыя была чыстай, а другая -- ужо з утрыманнем кадмію. Былі праблемы з марожаным, закупленым у Польшчы. З паўднёвых рэспублік былога СССР часта прывозяць каньякі, выробленыя на малых недзяржаўных прадпрыемствах. Мы не выдаём сертыфікаты на такую прадукцыю, бо яе ўжыванне можа скончыцца трагедыяй.

*-- Ці дабавілася вам працы апошнім часам?*

-- Канешне, дабавілася, і гэта звязана з тым, што ў нас зараз уведзена абавязковая сертыфікацыя пэўных груп прадуктаў і тавараў. Абавязковай сертыфікацыі падлягаюць электрабытавыя прыборы, бытавая радыёэлектроніка, тавары дзіцячага асартыменту -- цацкі, бялізна, адзенне, абутак, а таксама запасныя часткі да аўтамабіляў, вырабы медыцынскай тэхнікі, пэўная група харчовых прадуктаў, парфюмерна-касметычныя тавары.

*-- Апошнім часам на прылаўках нашых магазінаў з'явілася шмат імпартных вырабаў у прыгожых упакоўках, якіх мы проста ніколі не бачылі і не ведаем. Ці прымаеце вы якія-небудзь меры для таго, каб нам, пакупнікам, было лягчэй ва ўсім гэтым разабрацца?*

-- Так, пры сертыфікацыі, напрыклад, парфюмерна-касметычных тавараў, якія паступаюць да нас з-за мяжы, мы патрабуем, каб абавязкова да кожнай партыі прыкладалася анатацыя на рускай мове і на кожнай упакоўцы была інструкцыя, як і калі карыстацца менавіта гэтым крэмам ці ласьёнам. І яшчэ адзін вельмі важны момант: касметычныя сродкі маюць пэўны тэрмін рэалізацыі, і мы патрабуем, каб гэты тэрмін быў указаны на кожнай упакоўцы. А калі выдаём сертыфікат, то запісваем у ім, што гэтая інфармацыя абавязкова павінна быць даведзена да пакупніка. Нядаўна да нас прынеслі румынскі пральны парашок у вельмі прыгожай упакоўцы з усёй неабходнай маркіроўкай, але думаю, што ні адна гаспадыня, прачытаўшы анатацыю, не стала б яго купляць. Справа ў тым, што на каробцы было напісана: для таго каб вымыць бялізну, вы павінны ўзяць адну сталовую лыжку гэтага парашку і дзве сталовыя лыжкі цёртага мыла. Інакш нічога не атрымаецца. Я, як гаспадыня, ніколі б яго не купіла. Прычым, у прадпрымальніка -- гаспадара гэтага парашку пасля таго, як мы прымусілі яго прычапіць перакладзеную інструкцыю да скрынак, усялякае жаданне прывозіць такі парашок яшчэ поўнасцю знікла.

*-- Ваша ўражанне аб прадпрымальніках, з якімі зараз даводзіцца працаваць?*

-- У асноўным гэта маладыя людзі, да якіх я стаўлюся з вялікай сімпатыяй, яны вельмі многа працуюць. Але яны -- першыя, яны -- пачынаюць і вельмі часта проста не ведаюць, як дзейнічаць, каб пазбегнуць памылак. Гэтым хлопцам проста не хапае прафесійных ведаў. Раней гандлем займаліся прафесіяналы са спецыяльнай адукацыяй, а сёння гэтым займаюцца былыя ўрачы, інжынеры, настаўнікі.

*-- Ці не таму на нашы прылаўкі часам трапляюць прыгожыя на выгляд, але не заўсёды смачныя і якасныя прадукты?*

-- Справа яшчэ і ў тым, што абавязкова павінны сертыфікавацца толькі прадукты харчавання доўгага тэрміну захоўвання. Тая лабараторная і інструментальная база, якая сёння існуе і ў нашых цэнтрах, і на заводах-вытворцах, не дазваляе праверыць, напрыклад, утрыманне соляў цяжкіх металаў у прадуктах. Для правядзення такіх выпрабаванняў трэба зрабіць падрыхтоўку пробы. Але такую аперацыю можна правесці толькі ў муфельнай печы, а працягвацца гэта будзе амаль тыдзень. Як вы разумееце, каўбасу, тэрмін рэалізацыі якой 36 гадзін, за гэты час ужо з'ядуць. У Польшчы мне даводзілася бачыць, як падрыхтоўка такой пробы ў мікрахвалевай печы займае 15 мінут, яшчэ 5 мінут ідзе на аналіз і выдачу рэзультатаў. Але наша прамысловасць такіх печаў не выпускае, а купляць іх за мяжой -- вельмі дорага.

*-- Ці даводзіцца вам сутыкацца з падробкамі?*

-- Даводзіцца. Неяк да нас прыязджаў прадстаўнік фірмы "Проктар энд Гэмбл", які зрабіў заяву, што на нашым рынку ёсць прадукцыя з іх гандлёвым знакам, якая гэтай фірмай увогуле не выпускаецца. Звяртаўся да нас і афіцыйны дылер фірмы "Дзілмах", якая выпускае чай, адносна падробак польскай вытворчасці. Даводзіцца нам сутыкацца і з падробленымі сертыфікатамі, прычым, фальсіфікавана ў іх усё -- ад спасылкі на пратаколы выпрабаванняў да подпісу і пячаткі мінскага цэнтра стандартызацыі і метралогіі. Калі мы выяўляем такія "дакументы", то адразу накіроўваем іх ва ўпраўленне па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю пры Міністэрстве ўнутраных спраў.

*-- Як вы думаеце, ці ведаюць пакупнікі зараз свае правы?*

-- Баюся, што не многія, хаця зараз сертыфікаты можна патрабаваць літаральна ва ўсіх гандлёвых кропках, нават у самых дробных. У сваю чаргу, я раю купляць патрэбныя рэчы і прадукты не ў кіёсках і "камках", а ў буйных універсамах і гандлёвых цэнтрах. Там працуюць абучаныя намі таваразнаўцы, прадаўцы, якія хутка адрозняць падробку ад арыгінала.

*-- На такой працы, як ваша, цяжка заставацца з усімі ў добрых адносінах. Ці ёсць у вас ворагі з ліку вашых кліентаў?*

-- Ведаеце, нават калі мы некаму і не выдаём сертыфікат на яго тавар, мы заўсёды тлумачым прычыну і імкнемся паставіць прадпрымальніка на месца чалавека, які набудзе гэтыя рэчы ці прадукты. "Добра, -- гаворым мы, -- вы патрабуеце, каб вам выдалі сертыфікат на ваш тавар, нягледзячы на яго недахопы. Але тады заўтра вы самі можаце апынуцца ў становішчы пакупніка, які набыў няякасны прадукт. Ці будзе гэта вам прыемна?" Калі мы тлумачым чалавеку прычыны адмовы доказна і аргументавана, а не на ўзроўні эмоцый, праблем, як правіла, не ўзнікае. А ўвогуле, як бы там ні было, апошнім часам наш гандаль усё ж такі набывае цывілізаванае аблічча, і пакупнік можа сёння адчуваць сябе больш упэўнена.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# ЦІ ШЧАСЛІВЫ ВЫ ЧАЛАВЕК?

## ГЭТАЕ ПЫТАННЕ НАЙЧАСЦЕЙ ЗАДАВАЛІ БАРЫСУ КІТУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

На спатканні з ім прыходзілі і прыязджалі яго былыя вучні: з Вільні прыехаў Расціслаў Мілюк, свае ўспаміны пра Кіта напісаў і прыйшоў на сустрэчу з ім Алесь Раковіч -- доктар тэхнічных навук, загадчык лабараторыі Інстытута тэхнічнай кібернетыкі Акадэміі навук Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч падарыў Барысу Уладзіміравічу свой новы зборнік вершаў "На высокім алтары" з кранальным надпісам: "Слыннаму сыну Беларускай зямлі акадэміку Барысу Уладзіміравічу Кіту -- ў незабыўны дзень нашага асабістага знаёмства. Паздароў, Божа, Вялікага Чалавека нашага! Маці-Беларусі вельмі патрэбна яго моц і здароўе. (Ніл Гілевіч. 22.9.94. Менск).



Барыс Уладзіміравіч атрымаў ад беларусаў Вільні, старшыні беларускай суполкі ў Літве Пятра Малафея афіцыйнае запрашэнне ў наступным годзе наведаць Вільню, адзначыць там свой 85-гадовы юбілей, пахадзіць па мясцінах сваёй маладосці. І ён абяцаў, калі будзе моц і здароўе, прыехаць у Вільню, тым больш, што там створаны беларускі культурны цэнтр імя Барыса Кіта. А цяпер, дзякуючы клопатам Вольгі Іпатавай, была арганізавана яго вандроўка па мясцінах дзяцінства і ранняга юнацтва -- у Мір, Карэлічы, Навагрудак і Гродна, дзе ён ні разу не быў, але дзе даўно чакалі яго як Ганаровага прафесара Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы.

Па дарозе на сваю малую радзіму, углядаючыся ў родныя краявіды, Барыс Уладзіміравіч успамінаў розныя падзеі са свайго дзяцінства: вось тут, каля ракі Сэрвеч, у першую сусветную вайну праходзіла лінія абароны Гіндэнбурга, на многія кіламетры быў нацягнуты калючы дрот, і яны, вясковыя хлапчукі, часта падкрадаліся сюды, іх цікавіла ўсё, што было забаронена; а па дарозе з Карэліч у Навагрудак недзе павінна стаяць старая каплічка, апісаная яшчэ А.Міцкевічам у "Дзядах"; а магутныя дубы, каля якіх нельга было не спыніцца, не палюбавацца іх раскідзістымі вершалінамі; яму помніліся гэтыя волаты маладымі дубкамі, такімі ж, як некалі быў ён сам, а цяпер яны, мудрыя, шмат пажыўшы і пабачыўшы на сваім вяку, сустрэліся, быццам старыя сябры, і Барыс Уладзіміравіч вітаўся з імі, пяшчотна дакранаючыся да іх агрубелай кары рукамі... І прыветна свяціліся купалы прыгожай і ўзнёслай царквы, калі праязджалі паўз Турэц, і ўсюды рабілі фотаздымкі на памяць...

На ўтульнай карэліцкай плошчы Барыса Уладзіміравіча сустракалі родныя і знаёмыя людзі, быў наладжаны прыём у старшыні Карэліцкага гарвыканкома Яна Альфяровіча і яго намесніка Аляксандра Самца. Яны запрасілі госця прыехаць на наступны год -- на свята 600-годдзя першага ўпамінання пра Мір і Карэлічы, якое будзе шырока адзначацца. Адбылася сустрэча грамадскасці Карэліч са сваім славутым земляком, пайшлі ўспаміны, пытанні, выступленні, аўтографы на кнізе "Вяртанне". Цікавым і ўсхваляваным было прывітальнае слова былога вучня Барыса Уладзіміравіча Пятра Новіка, які спецыяльна прыехаў з Вільні на сустрэчу з настаўнікам: "Я ўраджэнец Агароднікаў, 13-гадовым хлапчуком Барыс Уладзіміравіч Кіт прывёз мяне ў Віленскую беларускую гімназію, здабыў для мяне бясплатнае ўтрыманне, як і многім іншым вучням. Па яго прыкладу таксама ўсё жыццё працаваў настаўнікам, цяпер на пенсіі, інвалід вайны. Я вельмі рады спатканню з Барысам Уладзіміравічам, спадзяюся, што цяпер ён часцей будзе наведваць Бацькаўшчыну". Шмат гаварыў, адказваў на самыя розныя пытанні Барыс Уладзіміравіч, з цікавасцю агледзеў выстаўку, яму прысвечаную, пад кранальным эпіграфам: "Родны дом, падарыў мне мужнасць, Зноў чакае мяне дарога, Непазбежнасць пакут і мудрасць Векавога твайго парога" (Пятро Ламан). Былі агульныя і групавыя фотаздымкі на памяць і развітальнае слова Аляксандра Самца: "Дзякуй вам, што не забылі нас, родную мову, дзякуй і нізкі паклон, што вы здзейсніліся як Чалавек, вучоны, праславілі нашу карэліцкую зямлю, якая дала вам сваю моц, каб вытрымаць усе выпрабаванні за ваша доўгае жыццё. Хачу падарыць вам беларускі ручнік з датай сённяшняй сустрэчы і памятны знак Міра, а таксама кветкі на памяць..."

А потым была магіла бацькі на карэліцкім пагосце, куды ехалі па былой вёсцы Агароднікі, вуліца якой цяпер называецца Акцябрская. Могілкі займаюць высокае, прыгожае месца. Тут ціха пагойдваліся ад ветру выносістыя сосны, а ў засмужанай далечыні 'ваколіц віднеліся Карэлічы, Агароднікі, дзе калісьці стаяла хата бацькі, які цяпер спачывае за залёнай агароджай пад сціплым помнікам дагледжанай Ірынай Уладзіміраўнай магілы -- "Уладзімір Аляксандравіч Кіта -- 1882--1970". Што падумаў Барыс Уладзіміравіч, паклаўшы кветкі на магілы бацькі і мачахі, якая была яму як родная маці, ідучы да машыны і аглядваючыся на гэтае святое месца? Тут свая зямля, родныя, блізкія людзі, землякі, прыхільнікі яго таленту, былыя вучні, роднае неба...

А яшчэ побач старажытны Навагрудак, дзе прайшлі яго першыя юнацкія гады, дзе і цяпер стаіць будынак беларускай гімназіі, пабудаваны яго рукамі, дзе ў краязнаўчым музеі знаходзіцца яго навуковая спадчына, дакументы, дыпломы, фотаздымкі, куды цяпер ён перадаў і сваю прафесарскую тогу. Сустрэча ў Навагрудку была такой жа цёплай і кранальнай, як і ў Карэлічах. У вялікай прыгожай зале музычнага вучылішча сабралася шмат народу. Тут адбылася знамянальная падзея -- Барысу Уладзіміравічу старшынёй Навагрудскага гарвыканкома Георгіем Бакам быў уручаны Дыплом Ганаровага грамадзяніна Навагрудка. Шмат добрых слоў і пажаданняў было выказана ў адрас госця. Чытала свае, прысвечаныя Б. Кіту вершы Вольга Іпатава, словы падзякі за перададзеную спадчыну выказала Тамара Вяршыцкая -- дырэктар Навагрудскага краязнаўчага музея, з успамінамі выступілі Аляксей Анішчык, аўтар кнігі пра Навагрудскую гімназію, і былы вучань гэтай гімназіі мясцовы паэт Самсон Пярловіч, ад Навагрудскай суполкі Згуртавання беларусаў свету Барыса Уладзіміравіча вітала Таццяна Царук, дзяўчаты ў нацыянальных строях уручылі Ганароваму грамадзяніну горада вянок з кветак і зялёных дубовых лістоў -- сімвал гонару, вечнасці і моцы. У адказ Барыс Уладзіміравіч усхвалявана сказаў: "Пасля таго, што я пераждыў, бачыў і чуў за сваё жыццё, гэта для мяне найшчаслівейшы момант. Я меў шмат гонараў, але гэта найвышэйшы..."

Доўга потым хадзіў па Навагрудку Барыс Уладзіміравіч. Спыніліся каля гары Міндаўга, пра гэты помнік XIII стагоддзя цікава расказвала Тамара Вяршыцкая, пабывалі на старажытным Навагрудскім замчышчы, адкуль адкрываюцца цудоўныя краявіды на горад і яго наваколле, і, вядома ж, не маглі абмінуць былую Навагрудскую гімназію, якая знаходзіцца ля падножжа замкавай гары. Мірна свяціліся ў прыцемку вокны, за якімі сядзелі вучні, нешта пісалі, слухалі настаўніцу, а былы дырэктар глядзеў на іх, і ціхай радасцю свяціліся яго вочы: справа яго працягваецца, жыве... Выйшлі настаўнікі, запрашалі зайсці ў школу, паведамілі, што яна цяпер носіць імя Адама Міцкевіча, але яны думаюць аднавіць яе гісторыю, сабраць звесткі пра яе першага дырэктара і будаўніка. Зноў фотаздымак на ганку былой гімназіі, побач з вакном пакоя, дзе некалі жыў дырэктар -- Барыс Уладзіміравіч Кіт. Пра яго разгорнута экспазіцыя ў краязнаўчым музеі, а таксама пра іншых славутых навагрудцаў. Барыс Уладзіміравіч пазнаваў тут многіх сваіх знаёмых: М.Чатырку, П.Скрабца, Л.Барысаглебскага, якія разам з ім працавалі ў Навагрудскай гімназіі, і беларусаў-эмігрантаў, якіх шмат выйшла з Навагрудчыны. Зноў нахлынулі ўспаміны пра гэтых людзей, пра маладыя гады, першае каханне, Навагрудак 20--30-х гадоў, вайну, вучняў, якія не раз выратоўвалі свайго настаўніка ад нямецкай расправы, пра вымушаную эміграцыю, жыццё беларусаў у Амерыцы...

А наперадзе была сустрэча з Гроднам -- цудоўным, старажытным беларускім горадам, якім захапляецца кожны, хто хоць аднойчы паходзіць па яго вуліцах, пастаіць над Нёманам, пабачыць стары і новы замкі, палацы, Каложу, пагутарыць з выдатнымі прадстаўнікамі беларускай нацыі. Найперш пра горад свайго юнацтва расказвала яшчэ па дарозе Вольга Іпатава, а пасля гідамі былі даўні знаёмы Барыса Уладзіміравіча Андрэй Майсяёнак -- народны дэпутат Гродзенскага абласнога Савета, намеснік дырэктара па навуковай працы Інстытута біяхіміі АН Беларусі, старшыня краязнаўчай асацыяцыі (ён шмат пісаў пра Б.Кіта, выступаў з дакладамі пра яго навуковую дзейнасць), Алесь Краўцэвіч -- прарэктар па навуковай працы Гродзенскага універсітэта, вядомы археолаг, гісторык, аўтар многіх навуковых прац, і Вячаслаў Буко -- доктар біялагічных навук, загадчык лабараторыі Інстытута біяхіміі АН Беларусі, які пазнаёміўся з Б.Кітом падчас сваёй паездкі ў Германію, у Франкфурце-на-Майне. Як цікава было слухаць гэтых глыбока дасведчаных, высокаадукаваных людзей, сапраўдных беларускіх інтэлігентаў, якія выдатна ведаюць свой край, яго гісторыю і якія шмат робяць для нацыянальнага адраджэння Беларусі.

Барыс Уладзіміравіч пабываў у Інстытуце біяхіміі. Андрэй Майсяёнак прадставіў яго дырэктару інстытута, расказаў пра дзейнасць і структуру гэтага навуковага цэнтра і асабліва пра яго заснавальніка і першага дырэктара акадэміка Юрыя Астроўскага, які заўчасна памёр у 1992 годзе, пакінуўшы пра сябе добрую памяць сярод людзей. Пра гэта сведчыць створаны ў інстытуце музей Ю.Астроўскага. Ён перапісваўся з Барысам Кітом, часта званіў яму ў Франкфурт, пісаў хадайніцтва на імя прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі пра абранне Б.Кіта ганаровым акадэмікам АН. Ю.Астроўскі быў не толькі выдатным вучоным-біяхімікам, доктарам медыцынскіх навук, але і актыўным грамадскім дзеячам, прымаў удзел у аднаўленні зруйнаванай беларускай гісторыка-культурнай спадчыны.

Пабываў Барыс Уладзіміравіч і ўсклаў кветкі да мемарыяльнай дошкі на доме, дзе жыў Рыгор Раманавіч Шырма, з якім ён быў асабіста знаёмы яшчэ ў 30-я гады, наведаў музей Максіма Багдановіча, экскурсію па ім правяла стваральніца гэтага музея вядомая паэтэса Данута Бічэль-Загнетава. Барыс Уладзіміравіч адзначыў, што музей Максіма Багдановіча нагадвае яму музей Бетховена ў Боне: той жа еўрапейскі ўзровень і па афармленню, багаццю экспазіцыі, і па эрудыцыі экскурсавода.

Але галоўнай падзеяй стала для госця наведванне Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, да помніка якому каля галоўнага корпуса ён усклаў кветкі. Быў арганізаваны прыём у рэктараце, куды запрасілі і гродзенскае тэлебачанне. Рэктар універсітэта прафесар Леанід Півач паведаміў, што навучальная ўстанова заснавана ў 1978 годзе на базе пединстытута. Цяпер тут працуюць шматлікія факультэты самага рознага профілю, навучаецца 7 тысяч студэнтаў (на дзённым і завочным аддзяленнях), якім чытаюць лекцыі 600 выкладчыкаў вышэйшай катэгорыі: прафесары, дактары, кандыдаты навук. Барыс Уладзіміравіч, як Ганаровы прафесар, выказаў падзяку, што яго прынялі ў сям'ю Гродзенскага універсітэта, і папрасіў, калі будзе магчымасць, адкрыць філіял універсітэта ў Навагрудку. Барыс Уладзіміравіч паабяцаў дапамагчы ў наладжванні кантактаў з еўрапейскімі універсітэтамі, як ужо дапамог Інстытуту біяхіміі і А.Майсяёнку наладзіць сувязь з Ельскім універсітэтам. У інтэрв'ю для тэлебачання Барыс Уладзіміравіч адзначыў, што ён шчыра верыць у наша нацыянальнае адраджэнне, тым больш пабачыўшы, сустрэўшыся з моладдзю, многімі беларусамі, якія самааддана працуюць дзеля беларускай ідэі. Назад дарогі няма, ва ўсім свеце сёння адчуваецца рух да незалежнасці, і ўвесь свет хоча бачыць дзяржаву Беларусь дэмакратычнай і незалежнай.

На сустрэчы са студэнтамі фізіка-матэматычнага факультэта, якую адкрываў і вёў рэктар універсітэта, Барыс Уладзіміравіч зноў апынуўся ў сваёй стыхіі настаўніка, выкладчыка любімай матэматыкі, зноў шмат расказваў пра сябе, сваю працу ў Амерыцы і педагагічную дзейнасць ва універсітэтах Еўропы, павіншаваў моладзь з незалежнасцю Бацькаўшчыны. "Вы пабачыце Беларусь у наступным стагоддзі. Вы будзеце сведкамі росквіту нашай краіны..."

І пасыпаліся шматлікія пытанні, якія сведчылі, што студэнтам было цікава пазнаёміцца са славутым беларусам, паслухаць яго меркаванні адносна самых розных жыццёвых праблем. "Барыс Уладзіміравіч! Ці шчаслівы вы чалавек?" Гэтае пытанне яму задавалі амаль на ўсіх сустрэчах, і ён нязменна адказваў, што ён шчаслівы чалавек, асабліва вяртаннем на Бацькаўшчыну і сваім новым знаёмствам з ёю. І сапраўды, паездзіўшы па глыбіннай Беларусі, пазнаёміўшыся, сустрэўшыся, паразмаўляўшы з моладдзю, з многімі выдатнымі беларусамі, апантанымі ідэямі адраджэння Бацькаўшчыны, Барыс Кіт упэўніўся, што жыве Беларусь, нягледзячы ні на што, як жыў, жыве і будзе жыць народ, які столькі адпакутаваў. Гэта загартоўвае, пацвярджае, што толькі ў еднасці, добрасуседстве, вернасці лепшым нацыянальным традыцыям, любові да сваёй мовы, гісторыі наша духоўная моц і выратаванне.

Усяго дзесяць дзён быў з намі Барыс Кіт, ён спяшаўся на Міжнародны астранаўтычны з'езд, які на гэта раз праходзіў у Іерусаліме. Знамянальна, што дарогі з Бацькаўшчыны павялі яго на радзіму Ісуса Хрыста, бессмяротнага пакутніка за шчасце людзей, якія распіналі святога на крыжы. Наш зямляк хацеў памаліцца за сваю Беларусь, за шчасце нарадзіцца Беларусам.

**Лідзія САВІК.**

**НА ЗДЫМКАХ: Андрэй МАЙСЯЁНАК і Барыс КІТ; Барыс КІТ у тозе Ганаровага акадэміка.**

**Фота Уладзіміра ВЫДЗЕРКІ і Віктара СТАВЕРА.**



217

Калі прэзідыум з'езда на чале з Іванам Серадой быў арыштаваны, яго месца занялі новыя дэлегаты на чале з Гольманам і -- нягледзячы на пагрозу расстраляць з'езд з браневікоў -- паспелі арганізаваць прыняцце яшчэ адной рэзалюцыі пратэсту супраць дзеянняў кіраўніцтва Заходняй вобласці і непрызнання яго ўлады. Беларускі народ заклікаўся да адкрытай і рашучай барацьбы з прадстаўнікамі гэтай улады ў Мінску. І самае недарэчнае было тое, што на з'ездзе амаль не існавала антысаветчыкаў. Дэлегаты фактычна не парывалі з бальшавіцкай Расіяй, не адвяргалі савецкай улады. Яны толькі жадалі ўвесці яе на Беларусі самастойна, без дыктату франтавых камісараў, чаго апошнія, зразумела, не маглі дазволіць. Было арыштавана 26 чалавек, астатнія разышліся асобнымі групамі каля 5 гадзін раніцы.

Але на гэтым гвалт не скончыўся. У ноч з 19 на 20 снежня быў зроблены напад на інтэрнат і канцылярыю Беларускай Вайсковай Рады. І зноў баевікі знаходзіліся ў нецвярозым стане. З гэтых часоў так і павялося, што і наступныя бальшавіцкія "перамогі" дасягаліся на Беларусі з дапамогай гарэлкі. А 20 снежня 1917 года СНК Заходняга фронту ладзіў вайсковы парад і канцэрт-мітынг. Былы Мінскі Беларускі полк у гэтым мерапрыемстве ўдзельнічаць адмовіўся. Сабраліся адны вайскоўцы, выступалі адны бальшавікі ды яшчэ бундаўцы. Не было толькі сярод мітынгуючых карэнных жыхароў: ні беларусаў, ні яўрэяў. Іх адносіны да бальшавікоў сталі яшчэ больш недаверлівымі і нават варо-

218

жымі. У апошнія дні снежня ў Мінску прайшлі забастоўкі, але адкрытага выступлення супраць мяснікоўцаў, як да таго заклікаў з'езд, не адбылося.

**ПАЛІТЫЧНАЯ НЯВОПЫТНАСЦЬ ПАТРЫЁТАЎ.** Беларускія дзеячы хацелі звязаць лёс свайго краю з Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікай, якой не існавала. Яны настойліва прапаноўвалі сваю мадэль дзяржаўнасці, калі ўжо Расія стала савецкай, а Украіна -- гетманаўскай. Безумоўна, гэта былі нежыццёвыя планы. Да адбудавання краю заклікаліся толькі беларусы і сяляне. Нацыянальныя лідэры доўга не адважваліся ўзяць уладу, спадзеючыся, што яна зваліцца да іх ад бальшавікоў -- і ў рэшце рэшт атрымалі тое, чаго заслугоўвалі.

Тым не менш, дэлегаты з'езда фактычна дэкларавалі ідэю Беларускай Народнай Рэспублікі, а перадачу ўлады бальшавіцкім Саветам многія разглядалі як часовую меру (да Устаноўчага сходу).

Беларускія партыі і арганізацыі закідалі Петраград шматлікімі пратэстамі. Петраградскі СНК зноў заяўляў аб прызнанні за беларусамі права на самавызначэнне. Вінаватыя ў разгоне з'езда атрымалі "строгую вымову". І гэтага было дастаткова, каб лідэры рабочых арганізацый БСГ (Чарвякоў, Жылуновіч) успрынялі гвалт над з'ездам як недарэчнасць. Аднак большасць беларускіх дзеячаў усё-такі зрабіла для сябе выснову, што беларусам з бальшавікамі не па дарозе.

219

## 24.5. Бальшавіцкае бязладдзе

**ПЕРАХОД ДЭЛЕГАТАЎ З'ЕЗДА НА НЕЛЕГАЛЬНАЕ СТАНОВІШЧА.** Бальшавіцкі гвалт не спыніў беларускі рух. Працягвала дзейнічаць Рада з'езда (Усебеларускі Савет) у складзе 56 чалавек на чале з Язэпам Лёсікам. Менавіта да гэтай Рады юрыдычна перайшла ўся паўната ўлады, якая раней належала разагнанаму з'езду. Ужо 18 снежня дэлегаты з'езда патаемна сабраліся ў чыгуначным дэпо пад аховай рабочай дружыны. Яны пацвердзілі за Радай Усебеларускага З'езда годнасць выканаўчага органа разагнанага з'езда. Было вырашана таксама Цэнтральную Беларускую Вайсковую Раду падпарадкаваць Радзе Усебеларускага З'езда, а іншыя палітычныя аб'яднанні з функцыямі кіравання распусціць, у тым ліку Беларускі Абласны Камітэт і Вялікую Беларускую Раду. Прэзідыум былога з'езда стаў Прэзідыумам Рады Усебеларускага З'езда, каб захаваць пераемнасць і павысіць яе аўтарытэт.

Паколькі новая Рада не мела сродкаў для ўтрымання ў Мінску сваіх іншагародніх сяброў, то з яе складу быў вылучаны больш сціслы працоўны орган -- Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага З'езда ў складзе 17 чалавек на чале з Язэпам Варонкам. Камітэт атрымаў даручэнне заняцца беларусізацыяй Саветаў на месцах, а як толькі стане магчымым, узяць уладу на Беларусі ў свае рукі.

220

**БАЛЬШАВІЦКІ РЭЖЫМ.** Пакуль жа гаспадарамі ў краі выступалі мяснікоўцы. На пачатку студзеня яны разагналі практычна ўсе гарадскія думы, управы і земствы на Беларусі. У Мінску 2 студзеня выбухнуў галодны бунт, і бальшавікі задушылі яго з дапамогай зброі. Камісары перыядычна наляталі на базары і канфіскоўвалі ў гандляроў мыла, соль, тытунь, запалкі, муку. Працягваліся рэквізіцыі на вёсках. Беларускае падполле было бездапаможным. На баку бальшавікоў знаходзілася армія, а сяляне падтрымлівалі нацыянальны рух пакуль слаба.

**ЗМАГАННЕ ЗА БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА.** Вось чаму беларускае кіраўніцтва асноўную ўвагу звяртала на расійскае войска, дзе тыя ж беларускія сяляне ў шынялях выяўлялі куды большую нацыянальную свядомасць, чым іх цывільныя землякі. Пра выкананне на Беларусі дэкрэта Крыленкі аб нацыянальных палках не магло быць і гаворкі. Затое на Румынскім фронце яго галоўнакамандуючы генерал Шчарбачоў ствараў для беларусізацыі вайсковых злучэнняў самыя спрыяльныя ўмовы. Ужо 28 снежня ў адказ на разгон Беларускага з'езда тамашнія нацыянальныя дзеячы дабіліся ўтварэння Беларускай вайсковай камісіі для арганізацыі беларускіх вайсковых часцей. І студзеня 1918 года фарміруецца Першы Гусарскі Беларускі Нацыянальны полк, а 21 студзеня -- Беларуская дывізія. Арганізацыяй беларускіх вайсковых часцей на Украіне займаўся камісар Белвайскрады Паўла Аляксюк. У канцы лютага 100-тысячнае Беларускае Войска ўжо

Захар ШЫБЕКА

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ**

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

221

рыхтавалася да адпраўкі на Бацькаўшчыну. Яно мела артылерыю і браневікі.

**ДЗЕЙНАСЦЬ БЕЛАРУСКАГА ПАДПОЛЛЯ Ў МІНСКУ.** А тым часам беларуская справа не прыпынялася і ў Мінску. Яна канцэнтравалася вакол Беларускай Вайсковай Рады, якая дабілася сваёй легалізацыі пад назвай Беларускі Савет Салдацкіх Дэпутатаў. Маленькімі групамі ў горад прыбывалі беларускія вайскоўцы і ўліваліся ў 289-ты пяхотны полк. Расейцы звальняліся на адпачынак і дэмабілізоўваліся. У кожнай роце закладваўся беларускі камітэт. Такая ж беларусізацыя вялася і ў Мінскай каравульнай камандзе. Справай кіраваў паручнік Кастусь Езавітаў. Адначасова вялася нацыянальная агітацыя па навакольных вёсках. Сяляне Сверджанскай воласці (пад Мінскам) дапамагалі збіраць і захоўваць зброю і боепрыпасы, пакінутыя дэмаралізаванымі вайскоўцамі. Шмат працаваў сярод вяскоўцаў і франтавікоў Сымон Рак-Міхайлоўскі. Беларуская Вайсковая Рада набывала вялікі аўтарытэт сярод беларускага насельніцтва. Здаралася, што ў яе памяшканні праходзілі і сходы Украінскай вайсковай рады Заходняга фронту.

**ПЕРШЫЯ ПРАЯВЫ ПОЛЬСКІХ ПРЭТЭНЗІЙ НА БЕЛАРУСЬ.** Беларусі недаставала свайго войска, каб бараніцца ад захопнікаў, і не толькі расійскіх. 12 студзеня 1918 года пачаўся польскі мяцеж. Сфарміраваны яшчэ Часовым урадам корпус з салдат-палякаў расійскай арміі пад камандаваннем генерала І.Доўбар-Мусніцкага захапіў Рагачоў, Жлобін, Бабруйск, шэраг чыгуначных станцый. СНК Заходняй воб-

222

ласці нічога не зрабіў, каб не дапусціць гэтага выступлення. Палякам маглі аказаць супраціўленне беларускія часці, але яны былі разагнаны мясцовымі камісарамі. На беларускіх землях побач з расійскім з'явіўся яшчэ адзін чужынскі полюс улады -- польскі. І ён меў падтрымку з боку мясцовых паноў.

Адраджэнне беларускай дзяржаўнасці нічога добрага для землеўладальнікаў не абяцала. Беларускія лідэры ўжо заявілі аб сваім намеры раздзяліць панскія землі паміж сялянамі. Спаланізаваным абшарнікам нічога не заставалася, як ратавацца пад крылом будучай незалежнай польскай дзяржавы. Нават бальшавікі для іх былі менш небяспечнымі, бо ўлада Саветаў падавалася зусім нетрывалай. Куды небяспечней было палітычнае ўмацаванне сапраўдных гаспадароў гэтага краю. Таму мясцовыя паны імкнуліся апярэдзіць народных беларускіх лідэраў і захапіць уладу ў свае рукі. У барацьбе з беларускім рухам прапольскія сілы не цураліся супрацоўніцтва з бальшавікамі. У Мінску працавала Польская Вайсковая Арганізацыя (ПВА). Яе члены шпіёнілі ў Беларускай Вайсковай Радзе на карысць людзей Мяснікова. І не дзіва, што 20 студзеня 1918 года, праз некалькі дзён пасля выкрыцця шпіёнскай дзейнасці двух палякаў, 289-ты полк гвалтоўна быў выведзены з Мінска, быццам бы на ахову чыгунак, а Рада з'езда засталася безабароннаю. Хутка стала вядома і пра склад Вярхоўнага Польскага Камітэта, які нелегальна працаваў у Мінску і кіраваў усёй польскай палітыкай у Расіі, у тым ліку дзейнсцю Доўбар-Мусніцкага і Мінскай ПВА.

223

Бездапаможнасць савецкай улады не выклікала ў беларускіх сялян захаплення. Яна не абараняла ад панскага ўціску, бо там, дзе дзейнічалі польскія легіёны Доўбар-Мусніцкага, мясцовыя абшарнікі адчувалі сябе вальготна.

**ПАДРЫХТОЎКА БЕЛАРУСКІХ ДЗЕЯЧАЎ ДА ЗАХОПУ ЎЛАДЫ.** Нягледзячы на перашкоды расійцаў і палякаў, беларускія дзеячы працягвалі барацьбу за ўладу. 3-га студзеня 1918 года Выканком Рады Усебеларускага з'езда папоўніўся прадстаўнікамі ад яўрэяў і іншых нацыянальных груп. Выконваючы пастанову Беларускага з'езда, ён накіраваў дэлегацыю на савецка-нямецкія перамовы ў Брэсце. Прабрацца туды з-за бальшавіцкіх перашкод удалося аднаму Івану Краскоўскаму, ды і то пад выглядам члена ўкраінскай дэлегацыі. Прадстаўнікам Украінскай Народнай Рэспублікі ўдалося адстаяць сваю незалежнасць на перамовах (27 снежня). Зрабіць гэта аднаму Краскоўскаму не ўдалося. Заставалася ўжыць сілу.

Бесперапынна працавала Цэнтральная Беларуская Вайсковая Рада. Ёй дапамагалі, рызыкуючы жыццём, прадстаўнікі розных грамадскіх арганізацый і ўрадавых устаноў. Беларусы-чыгуначнікі правозілі радаўцаў ва ўсе куткі краю без усялякіх прапускоў ці білетаў. Павятовыя і валасныя земцы хавалі беларускіх агітатараў і перапраўлялі іх з вёскі ў вёску. Саюз земстваў і гарадоў у Мінску бясплатна харчаваў у сваіх сталоўках усіх беларускіх кіраўнікоў з Вайсковай Рады і Рады з'езда. Беларускія тэлеграфісткі пад носам бальшавіцкіх камісараў перадавалі ў студзені 1918 года ва ўсе куткі Расіі

224

тэлеграмы Белвайскрады з заклікам да беларускіх арганізацый узмацніць агітацыю сярод сялян і разгарнуць кампанію пратэсту супраць мяснікоўцаў. Амерыканскае культурна-дабрачыннае таварыства "Хрысціянская моладзь" перадало Беларускай Вайсковай Радзе ў карыстанне свае клубы і кінематографы як у Мінску, так і на фронце. Нават бальшавіцкі камісар асветы шукаў дапамогі ў Белвайскрадзе.

Справа набліжалася да перавароту. Чакаўся прыход беларускіх падраздзяленняў з Адэсы, Кіева, Віцебска. Мінскае інтэнданцтва патаемна ад Аблвыканзаха і пры ўдзеле Васіля Захаркі назапашвала абмундзіраванне. І калі амаль усё было падрыхтавана, каб зваліць бальшавікоў, беларускае кіраўніцтва зноў напаткала няўдача. Ці то па ініцыятыве Мінскага ЧК, ці то па наводу палякаў у ноч з 26 на 27 студзеня на штаб-кватэру Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады бальшавікі зрабілі чарговы налёт. Было арыштавана 6 кіраўнікоў, у тым ліку -- Езавітаў, Мамонька, Захарка. Дзейнасць Рады забаранялася. Але гэта ўжо была помста часовых гаспадароў. Бальшавікі цішком рыхтаваліся да эвакуацыі. Справа ў тым, што савецка-нямецкія перамовы аб міры ў Брэсце па віне Троцкага заходзілі ў тупік, і чакалася наступленне немцаў.

Адразу ж пасля разгрому Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады ў Кіеве, Адэсе і Ясах пачаліся перамовы з украінскім і румынскім урадамі аб хутчэйшым пераходзе беларускіх палкоў праз украінска-савецкі фронт, каб у далейшым прабівацца на Мінск.

## АДКРЫЦЦЁ НОВАЙ ЭКСПАЗІЦЫІ Ў МУЗЕІ Кузьмы ЧОРНАГА Ў ЦІМКАВІЧАХ





# З БЕССМЯРОТНЫХ...

Паўвека прайшло з таго дня, як перастала біцца "чулае сэрца" выдатнага празаіка, драматурга, публіцыста Кузьмы Чорнага (Мікалая Карлавіча Раманоўскага), пісьменніка, у творчасці якога знайшлі сваё адлюстраванне знаёмыя яму з дзяцінства мясціны і людзі з іх характарамі і звычкамі, якія, прайшоўшы праз творчую лабараторыю пісьменніка, сталі сапраўды нацыянальнымі тыпамі ў беларускай літаратуры.

24 чэрвеня 1964 года ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна, на радзіме пісьменніка, быў адкрыты музей. Асноўная частка экспазіцыі расказвала пра жыццё і творчасць славутага земляка. Мусіць яшчэ і сёння выпускнікі 60-х гадоў і настаўнікі Цімкавіцкай сярэдняй школы памятаюць, як збіралі матэрыялы для экспазіцыі, як уласнымі рукамі ўзводзілі будынак музея, хваляваліся перад адкрыццём. Арганізатарам і кіраўніком гэтай справы была Зінаіда Раманенка, заслужаная настаўніца БССР, былы нязменны дырэктар школы імя Кузьмы Чорнага. Музей быў адкрыты і працаваў, пад яго дахам збіраліся пісьменнікі, земляки, родныя Кузьмы Чорнага, праходзілі цікавыя сустрэчы. Але час наклаў свой адбітак і на будынак, і на экспазіцыю. Наспела неабходнасць адрамантаваць памяшканне і па-новаму, з пазіцый сённяшняга дня расказаць пра лёс і творчасць пісьменніка.



Зараз літаратурны музей Кузьмы Чорнага -- адзін з філіялаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

У канцы кастрычніка тут адбылося ўрачыстае адкрыццё новай экспазіцыі. Каб яшчэ раз асэнсаваць творчасць вялікага празаіка, прайсці яго жыццёвымі сцежкамі, у Цімкавічы зноў прыехалі пісьменнікі (Уладзімір Юрэвіч і Алесь Жук), родныя, навукоўцы, удзельнікі першай міжнароднай канферэнцыі дырэктараў літаратурных музеяў, сабраліся вяскоўцы, настаўнікі і вучні мясцовай школы.

У чатырох залах размясціліся экспанаты, што расказваюць пра Кузьму Чорнага, пісьменніка і чалавека. У аснову экспазіцыі пакладзены гісторыка-храналагічны прынцып падачы матэрыялу. Сярод экспанатаў, што знайшлі сваё месца ў залах, ёсць і тыя, што былі набыткам народнага музея. Гэта некаторыя фотаздымкі, зборнікі апавяданняў, часопісы і асабістыя рэчы пісьменніка -- паліто, самавар, абрус, вытканы рукамі маці Кузьмы Чорнага -- Гліцэрай Раманоўскай. Але ёсць і шмат новых экспанатаў. Гэта фотаздымкі дарэвалюцыйнай Вязьмы, дзе з верасня 1916 па май 1917 года знаходзілася сям'я ў эвакуацыі. Нясвіжская настаўніцкая семінарыя, у якую толькі паступіў вучыцца Мікола Раманоўскі; здымкі цімкавіцкіх суседзяў Раманоўскіх і дзяўчатак, з якімі ў маленстве сябравалі сёстры пісьменніка, а пасля і ён сам; першыя зборнічкі апавяданняў, газеты і часопісы 20--30-х гадоў, на старонках якіх друкаваліся апавяданні, замалёўнік Чорнага, нарысы і першыя раманы, аўтографы і рукапісныя сшыткі з творамі ваеннага часу, якія вельмі беражліва захоўвае дачка пісьменніка Рагнеда Раманоўская. Гэтая шчырая, добрая жанчына аказала вялікую дапамогу ў стварэнні музея.





Вельмі каштоўным, цікавым экспанатам з'яўляецца карта Беларусі, якую перадаў Уладзімір Юрэвіч. У яго асабістым архіве паўвека захоўвалася тая самая карта, што вісела ў Маскве ў радыёстанцыі "Савецкая Беларусь", дзе у час Вялікай Айчыннай вайны працаваў пісьменнік. І, як успамінае Уладзімір Юрэвіч, "...штодзень, атрымаўшы новыя паведамленні аб вызваленых нашай арміяй новых населеных пунктах, памячаў іх чырвонымі флажкамі. Калі ў рэдакцыю прыходзіў амаль штодзень, як на працу, Кузьма Чорны, ён спярша разглядаў доўга тую карту з новымі адзнакамі, запісваючы ўсё нешта ў сваім блакноціку", а потым, відаць, ішоў пісаць, і з-пад яго пяра з'яўляліся памфлеты, фельетоны, артыкулы, у якіх гучаў голас пісьменніка-патрыёта, публіцыста, які з першых дзён вайны верыў у перамогу.

Дакументы ваеннага часу, дзённік з запісам, зробленым у апошні дзень жыцця, некралогі беларускіх пісьменнікаў на смерць Кузьмы Чорнага. І гэта толькі некаторыя з экспанатаў, якія прадстаўлены ў 3-й зале экспазіцыі.

А пра тое, што творы Кузьмы Чорнага жывуць, што жыве памяць аб ім, расказвае апошняя зала, дзе змешчаны ілюстрацыі беларускіх мастакоў А.Кашкурэвіча, У.Малахава, М.Гуціева да твораў пісьменніка, дзе фотаздымкі расказваюць аб пастаноўках драматычных твораў на сцэнах беларускіх тэатраў, дзе знаходзяцца пераклады твораў пісьменніка на іншыя мовы свету, што яшчэ раз упэўнівае нас у тым, што Кузьма Чорны, як сказаў В.Быкаў, "гэта адзін з бессмяротных мастакоў свету і наша нацыянальная гордасць".

**Лідзія МАКАРЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: музей пісьменніка ў Цімкавічах; бюст К. Чорнага; экспанаты музея (3-ці і 4-ты здымкі); урачыстае адкрыццё новай экспазіцыі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# КОЖНЫ НАРОД НЕ БЕЗ РОДУ

24--27 кастрычніка ў Мінску прайшла першая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя дырэктараў літаратурных музеяў. Яна была склікана па ініцыятыве кіраўніцтва Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь і згуртавала вакол сябе прадстаўнікоў нашай краіны, а таксама Расіі і Украіны.

Абмяркоўвалася праблема "Літаратурны музей і культурна-асветніцкія задачы сучаснасці". У канферэнцыі прынялі ўдзел намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь Уладзімір Гілеп, народны пісьменнік Беларусі, ганаровы член Акадэміі навук Беларусі Янка Брыль, акадэмік, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, намеснік старшыні гарвыканкома Мінска Аляксандр Сасноўскі. Былі таксама запрошаны кіраўнікі гістарычных, краязнаўчых, этнаграфічных, мастацкіх музеяў рэспублікі, чый вопыт не лішні пры абмеркаванні праблем, якія ў многім з'яўляюцца агульнымі для ўсяго нацыянальнага музеязнаўства. Нельга не браць у разлік і тое, што некаторыя беларускія пісьменнікі былі таксама выдатнымі гісторыкамі, этнографамі, краязнаўцамі, мастакамі, акцёрамі. Для прыкладу варта згадаць Адама Багдановіча, Аляксандра Шлюбскага, Вацлава Ластоўскага, Уладзіслава Галубка, Еўсцігнея Міровіча...

Прысутнасць на канферэнцыі пісьменніка і літаратара, вучонага і студэнта, выкладчыка і музеязнаўца не выпадковая. Яе арганізатарам і ўдзельнікам было важна пачуць думку кожнага з іх. Голас аднадумца і апанента даваў магчымасць яшчэ і яшчэ раз вызначыць дасканаласць навуковай канцэпцыі літаратурных музеяў, правільнасць шляхоў іх развіцця. Асаблівую цікавасць у прысутных выклікала мастацкае праектаванне, выкарыстанне ў экспазіцыі літаратурнага музея беларускага народнага лялечнага тэатра Батлейка. Найбольш востра стаяла пытанне падрыхтоўкі спецыялістаў музейнай справы як аднаго з зыходных у вырашэнні многіх праблем музеязнаўства. Даклад "Беларускі музей і музеялогія", з якім выступіў кандыдат гістарычных навук, дырэктар гісторыка-культурнага запаведніка "Заслаўе" Алесь Каўбаска, вельмі лагічна прывёў да пераканання, што неабходна неадкладна фарміраваць нацыянальную музеялогію як навуковую дысцыпліну. Вельмі радуе, што ёсць аднадумцы, якія надаюць вялікую ролю музеям у адраджэнні духоўных каштоўнасцей народа, яго культуры, ролі іх у фарміраванні нацыянальнай свядомасці, выхаванні падрастаючага пакалення. І нікога не патрэбна пераконваць, што згаданыя вышэй задачы адносяцца да ліку карэнных інтарэсаў дзяржавы і з'яўляюцца важнейшым элементам моцы і стабільнасці дзяржаўнага ладу.

Навуковая канферэнцыя дырэктараў літаратурных музеяў мела не толькі тэарэтычны, але і практычны плён.

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры ўдзельнікі нарады змаглі ўбачыць увасабленне новай канцэпцыі літаратурнага развіцця Беларусі 20--30-х гадоў, што адлюстравана ў экспазіцыі "Покліч". Выстава "Васіль Быкаў -- асоба і час" прадэманстравала, што музей гісторыі беларускай літаратуры павінен быць своеасаблівым навуковым і культурна-асветніцкім цэнтрам. Літаратурны музей М.Багдановіча з'явіўся яркім прыкладам сучаснага манаграфічнага музея.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

ПРА ЯГО ДАГЭТУЛЬ

ГАВОРАЦЬ ПАЎШЭПТАМ

# ХТО Ж ЁН, ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ?

І ніколі не даб'ешся там нацыянальнай свядомасці, бо калі хто каталік, дык скажа табе: я "польскі", а калі праваслаўны -- дык: я "рускі". Нацыянальныя паняцці ў галаве селяніна пераблыталіся, ён ведае толькі адно, што ён -- "тутэйшы".

Аднак Васіль не быў бы Васілём (чытай: Ф.Аляхновіч не быў бы Ф.Аляхновічам), калі б лёгка здаўся перад, здавалася б, неабвержнымі фактамі. Нацыянальная ідэя, якая запоўніла яго цалкам, без астатку, насуперак усяму падказвала: будзь аптымістам. Будзь сам аптымістам, перадай сваю веру сябрам, таварышам. Глядзіш -- і народ абудзіцца, бо народу неабходны прыклад: "Але вось жа гэтая яго "тутэйшасць" і давядзе яго да нацыянальнай свядомасці, бо ён у канцы канцоў зразумее, што польскі пан і расейскі чыноўнік -- людзі часовыя, ён -- гэты беларускі мужык -- гаспадар свае зямлі".

Матывы адраджэння востра загучалі і ў камедыі "Пан міністр" (1923). Ф.Аляхновіч, змагаючыся за нацыянальную ідэю, зрабіўшы гэта справай усяго свайго жыцця, вядома ж, не мог не бачыць, як з'яўлялася шмат прыставанцаў, гатовых спекуляваць на пачуццях лепшых сыноў беларускага народа. Такія псеўдаадраджэнцы на словах стаялі за самастойную беларускую дзяржаву, але планы ў іх былі зусім іншыя: па магчымасці ад гэтага самага пірага дзяржаўнасці адламаць як мага большы кавалак. Драматург і паказаў аднаго з падобных "адраджэнцаў", прэтэндэнта на партфель міністра ў скірмунтаўскі кабінет Беларускай Народнай Рэспублікі.

Філімон Пупкін -- тыповы прыстасаванец. Чалавек недалёкі, ён адначасова фанабэрысты і самаўпэўнены. Хоча нават, каб пакаёўка называла яго не інакш, як пан міністр. Да ўсяго Пупкін любіць маладзенькіх дзяўчатак, а заваблівае іх да сябе на кватэру даволі арыгінальным чынам. Знаходзіць чарговую далёкую родзічку ў вёсцы і прапаноўвае ўладкаваць у горадзе. Люба -- адна з гэткіх "сваячак". Праўда, яна дзяўчына з розумам, таму хутка раскусіла "дзядзечку". Ды і не збіраецца хаваць сваё стаўленне да яго: "Як вы першы раз прыехалі на вёску і зайшлі да мае цёткі, дык я падумала, што гэта прыехаў свінабой, бо ў нас казалі, што прыедзе пад радчык свінні купляць".

Асабліва пераканаўчыя ў п'есе моманты, дзе паказаны Пупкін сам-насам. Вось тады і раскрываецца яго сапраўднае нутро. На людзях ён выказвае жаданне вывучаць беларускую мову, просіць дапамагчы адшукаць настаўніка. Калі ж не ўдалося стаць міністрам, рэзка спыняе ўсю гэтую гульню: "Правалілі... правалілі... правалілі... Кажуць: не беларус... што -- беларус?.. хто -- беларус? Племя... нарэчые... Рэспубліка!.. гм!.. падумаеш!.. А "весь ручьи сольются вь русском мирь"... "Единая неделимая матушка"... -- вось сіла! вось ідэал! Уся гэтая беларуская мода хутка кончыцца, а тады зноў будзем з цвярдымі знакамі..."

Даўно раскусіў Пупкіна Мікола Светлячок (звярніце ўвагу на прозвішча, не выпадкова яно, якраз з падобнымі Светлячкамі Ф.Аляхновіч і звязваў будучыню і беларускасці, і самога народа), які было пачаў прэтэндэнта на міністэрскі партфель вучыць беларускай мове. Раскусіў, але да пары-часу маўчаў. Бачачы, што яго "вучань" у сваіх заляцаннях да Любы пераступіў усе межы прыстойнасці, зразумеўшы, што людзі, падобныя Пупкіну, толькі кампраметуюць беларускую ідэю, Мікола Светлячок выказвае ўсё, што думаў.

"Няскончаная драма", "Пан міністр", камедыя "Шчаслівы муж", драма "Дрыгва" (да ранейшай п'есы "Манька" аўтар дадаў два акты) пісаліся пасля чарговага вяртання Ф.Аляхновіча ў Вільню. У 1924 годзе ён завяршыў і даследаванне "Беларускі тэатр", у дзвюх частках якога ахапіў гісторыю нацыянальнага сцэнічнага мастацтва ад народных вытокаў да савецкага перыяду. "Беларускі тэатр" пабачыў свет у тым жа 1924 годзе ў адным зборніку з "Панам міністрам". Ф.Аляхновіч меўся напісаць "аповесць з сучаснага беларускага жыцця", былі ў яго планы новых драматычных твораў. Сталася так, што жыццё пайшло нечакана зусім у іншым кірунку, у які ён паверыць не мог.

У лістападзе 1926 года ў Мінску праходзіла канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу, што праводзіла нацыянальная Акадэмія навук. Справа рабілася з размахам. Запрасілі на канферэнцыю вядомых вучоных з іншых рэспублік Савецкага Саюза, а таксама з-за мяжы. Паехаў у Мінск і Ф.Аляхновіч. Тым больш, што ён добра ведаў, як на той час у Беларусі паспяхова ішлі справы па беларусізацыі. І сам не хацеў заставацца ў баку.

Радасны з'явіўся ў Мінску, з'ездзіў у Віцебск на адкрыццё БДТ-2 (цяперашні акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа). Хацеў назаўсёды застацца на Беларусі, але народны камісар асветы А.Баліцкі, з якім Ф.Аляхновіч падзяліўся планамі, не ўхваліў яго намер. Відаць, ведаў тое, чаго не ведалі іншыя. І, аказалася, меў рацыю.

Але слова самому Ф.Аляхновічу: "Усяго на волі я быў нядоўга. Прыехаў у СССР 17 лістапада 1926 года, а 1 студзеня 1927 года мяне арыштавалі". Сведчанне з аповесці "У кіпцюрох ГПУ" (аўтарская назва "У капцюрох ГПУ"). Твор, дарэчы, у ЗША і Заходняй Еўропе выйшаў у перакладзе на сем моў. І толькі нядаўна прыйшоў да беларускага чытача ("Полымя", 1991, N 1; у гэтым жа годзе апублікавала аповесць і "Народная газета").

З аповесці бачна, як Ф.Аляхновіч шчыра верыў, што на беларускай зямлі і сапраўды людзі жывуць свабодна: "Я ехаў туды, як "попутчик", веручы свята, што там творыцца новае харошае жыццё, што там на культурнай беларускай ніве буду мець шырокае поле дзеля працы", "тыя, хто ставіўся крытычна да майго энтузіязму, не здолелі пераканаць мяне", "я гэтак бяскрытычна верыў тады ў савецкі міраж, што нават агентаў ГПУ прымаў за людзей, якім можна верыць, амаль не за сваіх прыяцеляў".

**Працяг. Пачатак у №№ 43,44.**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

---

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з дастаўвачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

---

*СПАДЧЫНА*

# ПАРАДНІЎСЯ З ДРЭВАМ

*"Чалавек настолькі парадніўся з дрэвам, што навучыўся атрымліваць з яго не толькі чароўныя гукі музыкі, але і мелодыі пластыкі".*

**А.ЛЯВОНАВА.**

Панямонне -- гэта надзвычай цікавы рэгіён народнай творчасці, што стварыўся на падмурку славянскай культуры, якая спалучыла ў сабе рысы традыцый заходнерускіх, польскіх і балцкіх плямёнаў. Своеасаблівасць творчасці Гродзеншчыны ў значнай ступені акрэсліваецца геаграфічным размяшчэннем, а таксама асаблівасцямі гісторыка-эканамічнага развіцця вобласці. З другога боку, Панямонне, як і ўся тэрыторыя Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца той жыватворнай зонай, дзе здзяйсняліся культурныя кантакты паміж усходнеславянскімі і заходнееўрапейскімі народамі. У сувязі з гэтым мясцовыя майстры часам выкарыстоўвалі некаторыя кампазіцыйныя і тэхнічныя прыёмы мастацтва суседніх народаў, асабліва Літвы і Польшчы. Убіраючы ў сябе культуру суседзяў, сапраўднае мастацтва Панямоння застаецца яскравым, самабытным і своеасаблівым. Яно займае значнае месца ў беларускай нацыянальнай культуры, узбагачае яе рукатворнымі рэчамі таленавітых народных майстроў. Адным з тых, хто стварае гісторыю народнага мастацтва, з'яўляецца Міхаіл Рышкевіч, якому ў гэтым годзе споўніцца 70 гадоў.

Калі размова ідзе пра таленавітага майстра, чамусьці заўсёды паўстае вобраз нейкага асаблівага чалавека, наогул непадобнага на звычайных людзей. Ён жа, знакаміты разьбяр па дрэву, уладальнік многіх дыпломаў, грамат, іншых узнагарод, -- самы звычайны, хіба што крышачку больш за іншых сціплы, нават сарамлівы, што так рэдка сустракаецца ў людзей сталага ўзросту. Ветлівы, шчыры, з асаблівай пяшчотай у вачах, ён не толькі спадабаўся мне адразу, а наогул пакарыў.

Прыгадваецца той дзень, калі я з вялікім корабам, у якім быў падарунак ад прафсаюзаў вобласці і Ганаровы дыплом, ішла па казачна прыгожай зімовай дарозе з Гасцілаўцаў да вёскі Бешанкі. Хтосьці праехаў на санках, пакрытых даматканай посцілкай, запрасіў падвезці. Адмовіўшыся ад прапановы, я з задавальненнем ішла пешкі.

На ўзгорку віднелася хата Рышкевіча. Драўляныя прыгожыя карункі на акенцах здалёк вабілі падарожных. На варотах птушачкі, каля летняй кухні маленечкая хацінка, якая, быццам у казцы, паварочваецца вакол сябе. Крыніца таксама размалявана ўзорамі. Менавіта ў такім доме, падумалася, павінен жыць майстар.

Каржакаваты, крыху вышэй сярэдняга росту, з прыемнай усмешкай, ён узрадаваўся нечаканай сустрэчы з зацікаўленым чалавекам і нават разгубіўся, як мне падалося.

-- Прабачце, пераапрану кашулю, бо я толькі з майстэрні, ад драўніны. -- І дадаў (ужо жонцы): -- Любачка, сабяры на стол, чалавек жа з дарогі.

Як прыемна было пачуць гэтае пяшчотнае "Любачка" ад сталага чалавека. Вось яны, сапраўдныя пачуцці.

Чакала Міхаіла Антонавіча, разглядвала ўсё навокал. Вось на партрэце ён, маладжавы яшчэ, з узнагародамі за працу ды за ваенныя гады. Рама, вядома ж, разная. Побач у такой жа ўзорнай раме фотаздымкі дзяцей, унукаў. У кутку невялікі абраз, упрыгожаны тканым ручніком з вышыванымі кветачкамі ды карункамі. На ложку посцілка-перабіранка, з-пад якой сарамліва выглядвае саматробны падзор. Вакол стала стаяць раскошныя крэслы, зробленыя гаспадаром. На адным -- пачатыя карункі ды клубочак з белымі баваўнянымі ніткамі...

Музей Рышкевіча! Гэта першае, што падумалася, калі я пераступіла парог другой паловы хаты. Музей гэты быццам заваражыў мноствам драўляных рэчаў, зробленых рукамі гаспадара. Рышкевіч моўчкі назіраў за маім разгубленым і зачараваным тварам. Адчуўшы, што затрымаюся ў цудоўным пакойчыку надоўга, прапанаваў абуць боцікі, каб не застудзіцца, бо гэтая палова хаты наўмысна трымаецца ў холадзе, каб не рассыхалася дрэва. Шафа, крэслы з арыгінальнымі спінкамі і падлакотнікамі, усялякія палічкі, мноства побытавых прадметаў, вялікія і маленькія скульптуры -- "Беларус", "Сялянка", "Вясковы настаўнік", "Сейбіт", "Францішак Скарына", "Касар", "Дудар", "Святы Пётра" і іншыя. Стары барадач пасля няўдалага палявання на мядзведзя прысеў крыху адпачыць пад дрэвам. Стомлена апусціліся рукі, што звычна трымалі рагаціну. З процілеглага боку каля таго ж дрэва сеў на пянёк...касалапы. Яны не бачаць адзін аднаго. Столькі шчырага гумару і так прыгожа!

А вось другая скульптурная кампазіцыя -- "Спадарожнік". Таксама пад дрэвам сядзіць дзядок ды на дудзе грае. Зусім яшчэ маленькае медзведзяня прымасцілася за спіной дзядка і быццам хоча пакласці яму лапу на плечы ды сказаць: "Давай пасябруем". Наогул, мядзведзі ў знакамітага разьбяра атрымліваюцца вельмі добразычлівыя, ачалавечаныя і заўсёды крышачку смешныя. Ён вельмі любіць усё жывое і справядліва лічыць, што нават самы жахлівы звер мае права на жыццё, але, вядома, у сваім асяроддзі і не павінен быць пакрыўджаны чалавекам. Цікавыя і мудрыя разважанні старога майстра з Лідчыны. За кожнай ягонай думкай -- глыбокі жыццёвы сэнс.

Кожны вобраз, які прыдумаў Рышкевіч, гэта вобраз сапраўднага беларуса, сціплага, працавітага чалавека. Глыбокім гуманізмам і любоўю да людзей надзелены вобразы апосталаў Пятра і Паўла, абаронцаў нялёгкай сялянскай працы.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63854** (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"**

Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар

на газету **63854** (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

### І ЗНОЎ ПАДПІСКА!

**Яна будзе доўжыцца да 25 лістапада! Калі вас цікавіць гісторыя Беларусі, аднаўленне яе традыцый, праблемы адраджэння нацыянальнай спадчыны, сустрэньце Новы 1995 год з "Голасам Радзімы"!**

**Кошт падпіскі на I квартал усяго 720 рублёў, на паўгоддзе — 1 440 рублёў.**

# КОЖНЫ НАРОД НЕ БЕЗ РОДУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Наведванне Літаратурнага музея Я.Коласа і яго філіялаў (Альбуць, Мікалаеўшчына, Смольня) дало магчымасць пераканацца не толькі ў непазбежнасці рэканструкцыі асноўнай экспазіцыі галаўнога музея, але і выразна адчуць вялікую ролю філіялаў у стварэнні цэласнага і поўнага вобраза класіка беларускай літаратуры, іх важную функцыю ў агульным гісторыка-літаратурным і нацыянальным працэсе.

Якраз да канферэнцыі было прымеркавана адкрыццё літаратурнага музея К.Чорнага, які з'яўляецца філіялам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і знаходзіцца ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна. Чатыры дні працы канферэнцыі далі магчымасць яе ўдзельнікам адчуць рэальны ўклад літаратурных музеяў у нацыянальнае музеязнаўства, беларускую культуру, стабілізацыю сучасных грамадска-палітычных і нацыянальна-культурных падзей.

Успрымаць пачутае і ўбачанае ўдзельнікам канферэнцыі, яшчэ больш адчуць багацце душы беларускага народа, яго шчодрасць і самабытнасць дапамагалі майстры мастацтва, самадзейныя калектывы. Асабліва радасна, што сярод іх былі дзеці. Менавіта тое пакаленне, на якое мы ўскладаем вялікія спадзяванні ў станаўленні нашай дзяржавы, нацыянальным адраджэнні, стварэнні новых матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей.

Закончыць інфармацыю хочацца мудрымі словамі Міколы Гусоўскага, якія былі напісаны ў запрашальным білеце і сталі як бы эпіграфам навукова-практычнай канферэнцыі:

**Кожны народ не без роду і племя мае**
**Летапіс свой і гісторыі след на старонках.**

**Тэрэза ГОЛУБ.**

## АЎТАМАБІЛЬ ПРАЦУЕ НА... ДРОВАХ

Жыхары Пастаў ужо не здзіўляюцца, калі бачаць на вуліцах горада гэтую аўтамашыну -- з выгляду звычайны ГАЗ-51, толькі замест бензіну ён скарыстоўвае... дровы і іншыя віды цвёрдага паліва. Гаспадар грузавіка Сяргей В., даведаўшыся аб выкарыстанні такіх аўтамабіляў у гады вайны, вырашыў пераабсталяваць і свой аўтамабіль. З дапамогай спецыялістаў станцыі аўтатэхабслугоўвання была выраблена газагенератарная ўстаноўка, і "дровамабіль" пачаў новае жыццё. Калі раней на 100 кіламетраў прабегу ішло 23 літры бензіну, дык зараз вадзіцель абыходзіцца 60 кілаграмамі бярозавых цурак.

Умелец распрацаваў методыку пераводу на газагенератар і іншых марак аўтамабіляў.



Вось такія прыгожыя дамы будуюць у вёсцы Доўгае Салігорскага раёна.

Фота Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ.

# ПАРАДНІЎСЯ З ДРЭВАМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Святыя адлюстроўваюцца майстрам быццам простыя сяляне, бо аўтар надзяляе сваіх герояў зямнымі рысамі. "Старац" гэта, "Кастусь Каліноўскі" ці жанчына з граблямі -- любы твор выкананы з такой шчырасцю ды любоўю, з такімі глыбокімі пачуццямі, што на яго хочацца маліцца, як на абраз, хочацца стаць лепшым, чысцейшым, чым ты ёсць.

Абрысы драўляных скульптур вясковага аўтара спакойныя і суровыя, што падкрэсліваецца франтальнасцю і раўнавагаю кампазіцыі. Народныя вобразы быццам напоўнены эпічнай велічнасцю. Мастацка-пластычнае вырашэнне фігур уражвае лаканічнасцю. Галоўную ўвагу аўтар надае твару і рукам, што ўласціва наогул для народнай беларускай скульптуры. Рышкевіч стварыў вялікую галерэю скульптурных вобразаў, кожны з якіх непаўторны, у кожным з якіх ёсць увасабленне існасці душы самога майстра.

Разныя кубачкі, каўшы, лыжкі, пасудзіна для малявінак ды пісанак -- у кожным з гэтых прыгожых прадметаў адчуваецца сапраўдны мастак, які валодае высокім густам, таленавітымі рукамі і той дабрынёй душы, якая, як чыстая крынічная вада, неабходна нам сёння.

Якое шчасце быць побач з такім чалавекам! У многім падобная да свайго мужа і жонка Любоў Ігнацьеўна. Працавітая, таксама шчырая, здольная ткаць, вышываць, плясці карункі і паясы, ведае даўнейшыя казкі, песні. Вось толькі выразаць не спрабавала. Пра мужа расказвае так: "Возьме ў рукі палена, тудысюды разцамі ды нажом прайшоўся, глядзіш -- ужо баба з граблямі атрымалася ці настаўнік з кніжкамі". Шкадуючы мужа, Любоў Ігнацьеўна часам просіць яго даць адпачынак стомленым рукам. Але каля любімай справы чалавек па-сапраўднаму адпачывае, лічыць майстар. Хіба рукі маці стамляюцца, песцячы сваё дзіця?

Сяджу ў прыгожым крэсле з нейкімі дзівоснымі звярамі на падлакотніках і слухаю някваплівую гаворку Міхаіла Рышкевіча, якая, быццам народны напеў, западае ў самыя аддаленыя куточкі душы.

-- Вось гэтае крэсла выразаў па заказу Гасцілаўскага сельсавета. На ім маладыя будуць сядзець падчас шлюбу. Няхай будзе надзейным іх шлюб, як гэтае дрэва. А вось крэслы для ўнукаў. Кожнаму, каб не пакрыўдзіліся на дзеда Міхася...

Творамі вядомага не толькі на Гродзеншчыне, але і за мяжой Беларусі майстра могуць ганарыцца многія музеі. Толькі здаецца мне, што самы вялікі сэнс набываюць яны ў музеі Рышкевіча. Менавіта там быццам ажывае дрэва. Кожны музей мае права купіць твор знакамітага майстра. Але... Уявіце, што ў вёсцы Бешанкі на Лідчыне, зусім недалёка ад трасы (бо тры-чатыры кіламетры -- гэта дробязь), знаходзіцца аўтарскі музей драўлянай разьбы, побач з якім жыве і сам майстар. Ніводная экспазіцыя так не ўражвае, як створаная ў прыродным асяроддзі. І яшчэ, ці заўсёды нам цікава наведваць вялікі музей, дзе абавязкова нам пакажуць усе патрэбныя і непатрэбныя паперкі, фотаздымкі і тыя рэчы, якія мы амаль сто разоў бачылі ў іншых музеях? Часам хочацца проста дакрануцца да прыгожага без прадмовы пра славутых генералаў, якія не заўсёды маюць дачыненне да нашага краю, ды былых лідэраў. Дык вось, думаецца мне, што такі ўтульны музейчык на перыферыі быў бы менавіта тым, чаго нам так не хапае. Прыгадваецца, як мая знаёмая з Санкт-Пецярбурга, упершыню трапіўшы ў наш прыгожы горад Гродна, адмовілася ад экскурсіі ў музеі абласнога цэнтра, але папрасіла паказаць ёй што-небудзь цікавае на вёсцы. Мы паехалі да Рышкевіча... Прайшло шмат гадоў, а яна, выхаваная ў горадзе, які па праву лічыцца цэнтрам мастацтва на тэрыторыі былога Саюза, пры кожнай сустрэчы ўспамінае тыя крэслы, скульптуры, ліштвы ды дзякуе лёсу, што пашанцавала ўбачыць усё гэта.

Дык можа варта падумаць, як зрабіць у Бешанках музей, каб рышкевічаўскія творы ўсе сталі музейнымі экспанатамі на радасць людзям, ды каб майстру весялей жылося ад гэтага.

Паважаны МАЙСТАР, усе прыхільнікі вашага таленту віншуюць з юбілеем. Дай Божа вам добрага здароўя і новых вяршынь у творчасці!

**Валянціна ВОЛАХ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 45. Падпісана да друку 7. 11.1994 г.